## ЗЬМЕСТ



**Папраўка:**

У папярэдніх нумарох падпісныя цэны на 1932 г. былі ўказаны няправільна. Павінна быць: на 1 год—3 р., на 6 мес.—1 р. 50 к., на 3 мес.—75 к. Асобны нумар каштуе 15 кап.


Нумар здан у набор 7-IV—32 г.
Падпісан да друку 21-IV—32 г.
Адказны рэдактар Міхась Чарот.
Адказны сакратар Я. Шарахоўскі.
Нумар набран і зьвёрстан брыгадай імя 13-га Кастрычніка, па макету А. Тычыны.
Корэктар А. Мацкевіч.
Клішэ выканана пад кіраўніцтвам Кантаровіча.


АДДЗЕЛ ПАДПІСНЫХ І ПЭРЫОДЫЧНЫХ ВЫДАНЬНЯЎ

# ПАДПІШЫСЯ на 1932 г.

на адзіны ў БССР ілюстраваны двухтыднёвы часопіс тыпу лепшых ілюстраваных часопісаў СССР

# Чырвоная Беларусь

ПАД РЭДАКЦЫЯЙ МІХАСЯ ЧАРОТА

## У „Чырвонай Беларусі“ на працягу 1932 г. будуць зьмешчаны:

**Апавяданьні:** С. Баранавых, Ул. Барашкі, З. Бядулі, А. Вольнага, Т. Гушчы, Ц. Гартнага, П. Галавача, Даўгапольскага, М. Зарэцкага, В. Каваля, Э. Кагана, Р. Кальтофэн, М. Кальтофэн, М. Лынькова, Я. Ліманоўскага, Р. Мурашкі, Маўра, М. Нікановіча, Нёманскага, М. Чарота, К. Чорнага, Швэйдэля і інш.

**Поэмы і вершы:** А. Александровіча, З. Астапенкі, С. Астрэйкі, М. Багуна, Бацюшкава, Я. Бобрыка, П. Броўкі, А. Звонака, Я. Купалы, Я. Коласа, К. Крапівы, С. Ліхадзіеўскага, М. Лужаніна, Юр. Лявоннага, В. Маракова, С. Нортмана, Ю. Таўбіна, І. Харыка, Ул. Хадыкі, М. Хведаровіча, М. Чарота, С. Шушкевіча і інш.

**Нарысы і фэльетоны:** М. Аляхновіча, Бэндэ, С. Бэрнара, С. Гюгера, А. Вольнага, В. Вольскага, Ф. Выхадцава, Ц. Зарэчнага, Б. Мікуліча, Мяжэвіча, Ал. Некрашэвіча, М. Пасьлядовіча, Я. Скрыгана, В. Сташэўскага, Шкадарэвіча, Хв. Шынклера, Ус. Шыдлоўскага і інш.

**Малюнкі і фото:** Ахрэмчыка, Азгура, Бразэра, Волкава, Гаўрыленкі, Заборава, Давідовіча, Кіпніса, Мазэлева, Малкіна, Пашкевіча, Ран, Семянякі, Салавейчыка, А. Тычыны, М. Філіповіча і цэлага шэрагу раённых корэспондэнтаў.

## „ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ“ ДАЕ Ў ГОД:

звыш 1000 фотоздымкаў, якія ілюструюць соцыялістычнае будаўніцтва СССР і БССР, а таксама замежнае жыцьцё, звыш 300 малюнкаў лепшых мастакоў, звыш 200 апавяданьняў, вершаў і нарысаў.

## „ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ“

на сваіх старонках адлюстроўвае соцыялістычнае будаўніцтва БССР і СССР, практыку герояў пяцігодкі, аддае вялікую ўвагу соцыялістычнаму спаборніцтву і ўдарніцтву, соцыялістычнай перабудове вёскі, шырока асьвятляе разгортваньне культурнай рэволюцыі, жыцьцё мастацтва, тэатру, кіно і інш.

**УМОВЫ ПАДПІСКІ:**

| На 1 год | | На 6 мес. | | На 3 мес. | |
|---|---|---|---|---|---|
| р. | к. | р. | к. | р. | к. |
| 3 | — | 1 | 50 | — | 75 |

Асобны нумар каштуе **15 к.**

**ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА** ўсімі агенцтвамі сувязі і лістаносцамі, кнігарнямі ДВБ, аддзелам падпіскі кнігацэнтру ОГІЗ'у РСФСР, усімі яго філіаламі і ўпаўнаважанымі.

Тэлефон рэдакцыі 17-09.

# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

№ 5-6
САКАВІК
1932

Пралетары ўсіх краін, злучайцеся!

Адрас рэдакцыі:
Менск, Савецкая, 59.
Тэлефон 17—09.


БУДУЧЫ ШКОЛАЙ КОМУНІЗМА НАОГУЛ, ПРОФСАЮЗЫ ПАВІННЫ БЫЦЬ, У ПРЫВАТНАСЬЦІ, ШКОЛАЙ КІРАВАНЬНЯ СОЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ ПРАМЫСЛОВАСЬЦІ (А ПОТЫМ—ПАСТУПОВА—ЗЕМЛЯРОБСТВА) ДЛЯ ЎСІХ РАБОЧЫХ, А ПОТЫМ І ДЛЯ ЎСІХ ПРАЦОЎНЫХ.

ЛЕНІН.



# РАЯ ШЫФРЫНА

(СІЛУЭТ)

Рая ўжо трэці раз пераглядзела сьвежы нумар газэты і незадаволена паківала галавою.

— А ўсё-такі не памоему!—абярнулася яна да свайго суседа.

— А чаго табе не хапае? — папікнуў яе Хаймоўскі.

— Газэта наша сухая, афіцыяльная... Мы павінны дабіцца таго, каб яна была жывою, захопліваючай... Паглядзі, во, на гэту і ты знойдзеш вялікую розьніцу.

Рая падала Хаймоўскаму шматтыражку суседняга заводу. Той пераняў газэту з рук рэдактара, перагарнуў яе некалькі раз і адказаў:

— Я ня згодзен з табою, Рая. Чым гэта газэта лепшая за нашу? Вёрсткаю? Ужываньнем во гэтых, во буйных літар? Ты параўнай зьмест і ўгледзіш, што мы ні каліва не адстаём.

Ізноў чужая газэта запярэсьціла ў Раі ў ваччу чарнатою сваіх літар.

— Не скажы, Лейзар, адкінь эгоізм. Мы павінны вучыцца ад другіх таксама, ня чваніцца... „Націск"—цікавая газэта!

— Па твойму толькі,—адказаў Хаймоўскі, і ізноў прыгнуўся над кучаю замурзаных паперак, толькі што сабраных па заводзкіх цэхах ад рабкораў і супрацоўнікаў.

Ён уважліва перачытваў кожны радок няроўнага, ламанага почырку, перакладаў лісткі паперы з месца на месца, чыркаў па іх удоўж і ўпоперак, адпаведна мяняючы выраз на твары.

— Матэрыялу даволі на цэлы нумар,—падаў ён, не адгінаючыся ад стала.

— А цікавы хаця?—усумнілася Рая.

— Розны ёсьць,—адказаў Хаймоўскі...

— Розны—і!..

Рая хацела нешта дадаць да выказанага, але ў момант перарашыла. Яе думка концэнтравалася вакол праглівага жаданьня палепшыць газэту, зрабіць яе баявым, арганізуючым органам рабочага колектыву завода. Над гэтым яна думала ўжо здаўна, як толькі яе прызначылі адказным рэдактарам.

Рая з самааддзанасьцю ўзялася за рэдагаваньне шматтыражкі, увайшла ў яе ўсёю істотай... Пасьля выпуску кожнага нумару, яна распытвае ў таварышоў аб іх поглядах і думках на газэту, улічае ўражаньне чытачоў, іх водгукі і пасьля гэтага падсумоўвае ўсё, каб наступны нумар зрабіць лепшым.

Але гэта яе не здавальняе. Раі хочацца большага.

— Шматтыражка павінна адыгрываць ролю арганізатара вытворства, служыць імпульсам для ўзьняцьця тэмпаў работы.

Няхай толькі ў тым ці іншым цэху зробіцца прарыў, ці выявіцца дэфэкт у якасьці продукцыі, як Рая адкрыта і сьмела ўскідае і на сябе частку віны за гэта.

— Мы вінаваты таксама, таварыш Хаймоўскі.

Хаймоўскі часта пярэчыць яе вывадам, але ня можа не згадзіцца ў праваце Раіных слоў.

Сталае, перманэнтнае імкненьне ўдасканаліць газэту—справодзіць працу рэдактара шматтыражкі ў кожнай яго думцы, у кожным пляне, у кожным меркаваньні. Зранку, зьявіўшыся на завод, Рая абягае цэхі і майстэрні: там яна заказала матэрыял, там павінна даць консультацыю рэдактару штодзенкі, там мусіць абсьледаваць становішча з выкананьнем пляну. Яе сустракаюць рабкоры, нарысісты, супрацоўнікі шматтыражкі і насьценак: гэта калёсікі тае машыны, якая завецца рэдакцыяй.

Ня так даўно газэта выходзіла нерэгулярна, з натугаю, чуць не выпадкова. Рая дамаглася, каб справа з шматтыражкаю была пастаўлена на цьвёрды грунт і набыла становішча пэрыодычнага органа. Зараз газэта выходзіць пяць раз у месяц. Гэта вялікі поступ пасьля таго, калі месяц даваў толькі два нумары. Але часты выпуск вымагае напружанай працы па арганізацыі газэты і збору матэрыялу.

Раі цяжка пагадзіцца з тым, чаму ўсе ня гэтак, як яна зацікаўлены газэтаю. Кожная заметка, прынесеная ў маленькі пакоік рэдколегіі, ці паданая пры наведваньні ёю цэхаў, захапляюць таварыша рэдактара. Артыкул, фэльетон, якія зьвяртаюць на сябе завостраную ўвагу з боку рабочага чытача—узносяць т. Шыфрыну на сёмае неба. Яна раз за разам перачытвае прыметную рэч і радасна ўсьміхаецца. Пабольш-бы падобнага матэрыялу! Столькі ёсьць баяных, трапятлівых, неадкладных пытаньняў, якія трэба асьвятліць праз газэту! Завод—гэта ня толькі машыны, гэта жывы організм, гэта працоўны колектыў, на які ўскладзены вялікія заданьні па пабудове соцыялізму. Гэта крыніца творчай працы, уздымных настрояў, багатых дасягненьняў! Нядбайнікі, бракаробы, гультаі і сымулянты—не павінны мець ніякай літасьці. Іх шкодныя паводзіны мусяць быць запляменены на старонках заводзкага друку! Моцна і злосна, едка і калюча! Але не бяз некаторае прасьветліны, праз якую можна ўпусьціць тава-



Фото Л. Мазалева

Ударная брыгада матальшчыц ф-кі „Чырвоны тэкстыльшчык"

ДРУКАРНЯ імя СТАЛІНА

**УДАРНІЦЫ СОЦЫЯЛІСТЫЧНАГА БУДАЎНІЦТВА! З БАЛЬШАВІЦКАЙ УПАРТАСЬЦЮ БУДЗЕМ ЗМАГАЦЦА ЗА ШЭСЬЦЬ УМОЎ т. СТАЛІНА, ЗА ВЫКАНАНЬНЕ ПРАМФІНПЛЯНУ 1932 г.**



Лепшая ўдарніца лінатыпнага цэху т. Пятровіч



Лепшая ўдарніца наборнага цэху т. Суліма

рышаву паправу. Бач ня ўсе-ж тыя, што сёньня перашкаджаюць развою працы, заўтра не пяройдуць у стан ударнікаў, штурмістаў.

Тав. Шыфрына чула падыходзіць да кожнага таварыша, да кожнае адмоўнае зьявы. Ёй хочацца перавыхаваць газэтаю таварыша, ачысьціць яго ад налёту адмоўных уласьцівасьцяў. А тым часам... даць-бы газэце малюнак і фэльетон падобныя, як то яна часта сустракае ў „Комсомольской правде".

Рая не расстаецца з гэтым жаданьнем, і ўпэўнена, што дамажацца яго ажыцьцяўленьня. Яна жыве ў станаўленьні, якое сашчыльнена з плённымі дасягненьнямі.

І гэта зусім не з таго часу, як стала адказным рэдактарам заводзкай шматтыражкі.

Тав. Раі Шыфрыной уласьцівы гэты мэтод у кожнай галіне працы. Ёй было 18 гадоў, калі яна актыўнаю комсамолкаю апынулася ў такарным цэху машынабудаўнічага заводу. Прафэсію токара і абсгавіны заводу яна прамяняла на ўсё іншае. У неўгамонным вярценьні станкоў, бегатне пасоў і бразгу жалеза яна бачыла зачаравальнае хараство.

У рабоце па заводзе было Раіна прызваньне. І таму, бач, ёй так лёгка далася такарная прафэсія! Станок, як улюбёнае дзіця, зрабіўся часткаю яе істоты. Рая пільна даглядала невялічкую вёрткую машыну і з захапленьнем абточвала рознастайныя часткі вымагаючых рамонту машын. На працы яна была ўзорным рабочым, дысцыплінаваным выканаўцам узятых і паложаных ёй заданьняў.

Але ня ў працоўным толькі стараньні выяўлялася Раіна актыўнасьць: яна была чынным сябрам комсамольскай арганізацыі. Цяга да ведаў, да кніжкі і газэты, уласьцівая ёй з юнацкіх гадоў, дала плённы ў выглядзе развітае думкі, трапнай арыентацыі ў бягучых падзеях, сьвядомасьці удумлівага масавіка. Ячэйкавыя сходы не абыходзіліся бяз яе разумных і сур'ёзных выступленьняў; не праходзіла ў баку ад Раі і грамадзкая праца заводу ў цэлым.

Рабочы колектыў па заслугах ацаніў маладога токара-дзяўчыну і адпаведна гэтаму стварыў да т. Шыфрыной свае таварыскія адносіны.

Партколектыў, з свайго боку, зьвярнуў на яе належную ўвагу, абраўшы агітпропам партколектыву. Рая поўнасьцю апраўдала сябе і на гэтай адказнай працы.

Калі паўстала ва ўсю вялічынь вялікая задача пабудовы колектыўнай формы сельскае гаспадаркі і патрабавалася шмат перадавых рабочых ды партыйцаў для работы па колектывізацыі, партколектыў заводу адну з першых вылучыў Раю Шыфрыну ў гістарычную кагорту дзесяцітысячнікаў.

Прапрацаваўшы пяць гадоў на заводзе, на шосты яна апынулася ў падшэфным заводу раёне, дзе райком паставіў не старшыней местачковага савету. Рая хутка ўвайшла ў ручаіну новых абавязкаў, хутка авалодала складанаю мэханікай гэтай установы. Невялічкая каморка абагуленага будынку ранейшага гандляра скурамі паходзіла на мурашнік. Ад восьмае гадзіны і да цёмнага гудам гудзелі ў ёй, як разварушаныя пчолы, капыляне. Распытвалі, разьведвалі, прасілі дарадаў, паказаньняў, думак.


Масква. Дырэктар ткацкай фабрыкі „Красная работніца" т. Левіна.

За іх нагамі клейкімі лістамі цягнулася чорнае мінулае, з наростам дробных назойлівых пытаньняў, клопату, забабон. Цягнуліся яхідлівыя, застрашальныя шэпты і нагаворы кулачча, шкоднікаў, заядлых ворагаў бурлівага соцыялістычнага будаўніцтва. Сотні пытаньняў накіроўваліся да Раі Шыфрыной, якая спакойліва і ўважліва, стаючы за нізенькім сталом, давала адказы, радзіла, тлумачыла, угаворвала дзядзькоў і цётак. І гэтыя дзядзькі і цёткі ўважліва яе слухалі, ня хочучы пакідаць памяшканьня мейсцсавету. Папярэднік Раі быў зусім іншым чалавекам: да яго радзей хадзілі і менш гутарылі; яго ня так шыроха ведалі за два гады, як т. Шыфрыну за некалькі месяцаў.

— Ты куды, Апанас?

— Да Шыфрыной.

Другія нават і ня пыталі адзін аднаго: сыходзіліся пры двары і, мэрам ведаючы загадзя, ішлі ўздоўж вуліцы да рынку, узгоднена паварачваючы направа, у чырвоную мураванку да Шыфрыной.

— Добрая дзяўчына,—хваліў звычайна на ганку месцсавету стары барадаты капыляніп яго старшыню. Старая Марцэль пацьвярджала гэта кіўком галавы.

— Калі скажа—усё спраўдзіць, усё...

— Добры старшыня, Шыфрына, — казаў заўсёды бядняк Рыгор Шкурынскі і стары колгасьнік Есіп Шкадарэвіч і, нават, тыя жанкі і мужчыны, якія не пасьпелі ачысьціца ад ліпкага мінулага, усё мармычучы на савецкую ўладу. Яны так абзываліся аб Раі:

— Разумная, на яе цураха, жанчына, няма чаго казаць.

## ФАБРЫКА „КАСТРЫЧНІК" (1-ы АГРЭГАТ)


Лепшая ўдарніца т. Цытвер


Ударніца т. Перцоўская


Ударніца т. Лібо

Фото Каплінскага





Камунаркі камуны „Праца“ Ельскага р. на лесазагатоўках



## ПАВЫСІМ РОЛЬ ПРАЦОЎНАЙ ЖАНЧЫНЫ Ў СОЦЫЯЛІСТЫЧНЫМ БУДАЎНІЦТВЕ

Апанас Татарынчык насіўся з Раіным імям... і ніяк не хацеў згаджацца, каб яе замянілі на другога таварыша.

Але т. Шыфрына думала аб заводзе. Яна цьвёрда стаяла на тым, што ў заводзе яна больш неабходна, як у Капылі. Раю цягнула да рабочага колектыву, у абставіны індустрыяльнага асяродку. Гэта цяга расла, уздымалася, таўхала рушыць з месца і, нарэшце, выправіла старшыню мейсцсавету ў Менск. Яшчэ ніхто ня ведаў, у чым справа, чаго Рая ачулася ў сталіцы, а ўжо яна апынулася ў водакруце заводзкага жыцьця. Ужо і цэхі, і заўком, і рабкоры і асадка ў руцэ над матэрыялам у шматтыражку і дарады т. Хаймоўскаму наконт монтажу і зьместу.

— Ужо скончыла з раёнам?

— Пакуль ЦК ня вырашыла.

— А калі стаіць твае пытаньне?

— Хто яго ведае, днямі...

І тут-жа яна забывае ўсё і зьліваецца з заводзкім жыцьцём, прасякаецца яго клопатамі, захапляецца яго заданьнямі. У гэтым сваім захапленьні яна толькі праз некалькі дзён даэнаецца, што яе справа вырашана дадатна, бач, яе пакідаюць у Менску, на заводзе, магчыма і... рэдактарам шматтыражкі... Рэдактарам шматтыражкі—гэта цьвёрдая думка сакратара колектыву Довіда Гобермана. Ён здаўна ведае Шыфрыну; амаль што аднačасна яны прышлі на завод. Некалькі гадоў стаялі пры станку і пасьля былі сябрамі бюро партколектыву завода.

— Вядзі, Рая, газэту: ты-ж проста знаходка для заводу,— угаварваў яе Довід.

— Падумаеш!—скромнічала Рая, трасучыся над газэтаю.

— Год-жа абыходзіліся без мяне і...

— Маўчы, не супярэч.

Газэта прыцягала да сябе т. Шыфрыну і, было відаць, як настарожліва яна чакала офіцыяльнае пастановы партколектыву.

— Мне не працуецца так, як трэба, калі становішча няяснае,—казала яна і тым часам усё так-жа аддана працавала. Тая-ж дзелавітая сумятня, шчырая зацікаўленасьць і старожкая дбайнасьць справодзілі Раю ў яе газэтнай рабоце. Таму і хацелася ёй, каб зараз-жа, падалі ёй выпіску з пастановы, што яна офіцыяльны рэдактар.

Довід гэта правядзе ў парадку работы бюро партколектыву.

Але раптам надышлі падзеі, якія ўнясьлі буйныя зьмены ў парткіраўніцтве заводзкай організацыяй: т. Гобермана зямяніў т. Тарасэвіч. Становішча Шыфрыной як рэдактара, заставалася нявысьветленым. Яна шкадавала Довіда, надзвычай добрага таварыша і харошага партыйца. Але і Тарасэвіч выявіў сябе тым-жа адданым членам партыі, чулым таварышом і добрым, сьвядомым кіраўніком організацыі; ён, хоць і даўно, але працаваў на гэтым заводзе, праўда, калі завод яшчэ знаходзіўся сваёю часткаю ў прыватніцкіх руках. Рэволюцыйны час Тарасэвіч сьлесараваў на многіх менскіх мэталічных прадпрыемствах. Завод яму свой, вядомы ад напільніка да такарнага станка. На заводзе яшчэ шмат старых вэтэранаў рабочых, з якімі ён побач стаяў пры станкох і з якімі прымаў удзел у дэмонстрацыях і протэстах пры старым рэжыме.

Тарасэвіч не замарудзіў высьветліць Раіну справу; ужо праз некалькі дзён яна стала офіцыяльным рэдактарам шматтыражкі. Подпіс „Рэдакцыйная колегія“ зьмяніўся на „Адказны рэдактар Р. Шыфрына“. Гэта яшчэ больш узмацніла Раіну актыўнасьць. Адказнасьць за газэту павялічыла яе захапленьне і надала ўзвышанай бадзёрасьці. Рая ні на хвіліну не выпускае з думак шматтыражкі: аддана працуе над яе палепшаньнем, стараецца яшчэ больш наблізіць да рабочай масы заводу. Яна не дапускае, каб намечаны зьмест газэты быў зьменены, калі гэтага не вымагаюць агульныя інтарэсы. Ласьне можна, каб не знашлося таварыша, які-б даў патрэбны артыкул, фэльетон, зводку, допіс? Ніколі! І толькі ў рэдкіх выпадках гэта трапляецца—звычайна Рая знаходзіць аўтара.

Таварыш Шыфрына не пастаіць ні перад чым, каб выпусьціць чарговы нумар у намечаны тэрмін. Гэта засьведчана многалікімі прыкладамі. Яна не пакінула сваёй работы ні тады, як сама захварэла грыпам, ні тады, як было хворае яе дзіця. Для газэты яна адважвалася пакідаць яго на руках у старой мацеры. Для Раі гэта было надзвычайна цяжка, яна дзялілася на двое: для дзіцяці і для газэты.

Шматтыражка вышла ў час, калі хворае малое ляжала ў гарачцы...

Газэта, як машына, ня можа спыняцца, калі працуе завод, калі йдзе напруджаная барацьба за выкананьне пляну, за пасьпяховае змаганьне за соцыялістычнае будаўніцтва.

Рая Шыфрына добра ведае гэта і ў складаным заводзкім мэханізьме дакладна і акуратна выпаўняе ўскладзеныя на яе абавязкі рэдактара шматтыражкі...

І газэта бесьперабойна набіраецца чарговым нумарам...

Ц. Г.

Зьм. Астапенка

# КАМАСАЦЫЯ

## (урывак з роману)

Пад вечар да асадніка Гжэцкага прышоў з сяла настаўнік Смольнянскае школы Ўтонскі. Ён далікатна пацалаваў руку пані Гжэцкай, калі яна выйшла прывітацца з ім і паціснуў руку гаспадару. Але пані Ядвіга хутка вышла, спаслаўшыся на тое, што ёй нездаровіцца і накінула пана Ўтонскага з гаспадаром адных.

У габінэце Гжэцкі па-сяброўску падсунуў пану Ўтонскаму крэсла і сыгары і сеў сам на кушэтцы пад асортымэнтам карабінаў, шабляў і стрэльбаў, разьвешаных на сьцяне.

— Ну, як справы, пане носьбіт польскае культуры на крэсах?—запытаў ён, пускаючы з люлькі клубы пахучага дыму.

Ён глядзеў на Ўтонскага лагоднымі вачыма чалавека, які адпачывае, пазбавіўшыся ад усіх і усялякіх клопатаў. Грубаваты твар ваякі за апошнія гады крыху патаўсцеў, зьмякчыўся і мабыць мала хто з былых вайсковых таварышоўлегіянэраў пазнаў-бы ў ім калішняга паручніка польскай арміі Юзэфа Гжэцкага. Да рэчы, ён цяпер ужо і ня быў паручнікам. Вось ужо другі год як пан Гжэцкі носіць чын палкоўніка. У яго ным габінэце вісіць вайсковая форма довудцы пулка—прыгожы шынэль, на пагонах абарончага колеру срэбныя нашыўкі, тры зоркі і ожал. Тыя-ж тры зоркі з белым арлом над імі—на шапцы пыхлівай, упэўненай, як сам гаспадар.

— Як справа, пане Ўтонскі?—удругі запытаў Гжэцкі.

— Справы нішто,—адказаў настаўнік,—але са школаю ня ўсё добра. Пачаўся навучальны год, а ў школе вучняў зусім мала.

Асаднік настаражыўся і мацней засоп люлькаю.

— Сяльчане ня хочуць пасылаць у польскую школу дзяцей. Нават ёсьць факты адкрытага агітаваньня супроць яе. Так, напрыклад, селянін Лук'янец неяк сказаў: „Каб мой сын ня вучыўся ў беларускай гімназіі ў Вільні, дык я-б ня пусьціў яго зусім вучыцца". Ён кажа, што лепш быць нявучаным, чым ламацца чужою мовай.

— Гм... Так, так!...—Пан Гжэцкі чырkануў у свой занатоўнік прозьвішча Лук'янца і сказаў пану Ўтонскаму:

— Прыдзецца штрафаваць тых, хто не пасылае ў школу дзяцей. Вы там паведамеце, пане Ўтонскі, у гміну, хто ўпарта не пасылае вучняў. Гэтых хлопаў толькі відаць прымусам і возьмеш!

— Пан Гжэцкі задумённа ўтупіўся ў разьвешаную зброю і колькі хвілін сядзеў нярухома. Потым рашуча ўстаў з кушэткі і, ляпнуўшы настаўніка па плячы, сказаў:

— Але-ж гэта глупства, пане Ўтонскі, ці праўда? Мы авангард, праваднікі польскае культуры тут на крэсах, і сваю задачу выканаем, ці праўда, пане Ўтонскі?

Словы пана Гжэцкага перапыніла пакаёўка Стэфка. Яна прасунула ў дзьверы свой хітранькі тварык і адрапартавала:

— Ту до пана пшышлі хлопі... Хцелі-а зобачыць пана.

— Нех там почэка... Я зараз,—сказаў пан Гжэцкі.

Ён жартаваў з настаўнікам, ціснуў яму руку. Сказаць па праўдзе, ён любіў гэтага карыснага свайго чалавека тут на ўсходніх крэсах, дзе пан Гжэцкі гэтак добра моцна абаснаваўся.

У прыхожай чакала трое сялян. Гэта былі таксама свае людзі ў фальварку. Пан Гжэцкі бадай па-сяброўску падаў руку каранастаму Панасу Андрыёнку, які аж пачырванеў ад такой ласкі. Два астатніх нізка пакланіліся пану Гжэцкаму, ціснучы ў руках шапкі.

Гаспадары прышлі да асадніка з просьбаю:

— Так што мы ізноў пана будзем прасіць... Няхай нам пан даруе,—гаварыў за ўсіх Панас Андрыёнак.—Дужа ўдзячны за поплаў, які пан сёлета быў ласкавы нам даць...

Пан Гжэцкі ласкавым рухам спыніў Андрыёнка. Ён нічога не шкадуе для добрых людзей. Ён дужа рады, што на сяле ў яго ёсьць добрыя прыяцелі. Для іх ён усё можа зрабіць. А лесу сваім прыяцелям ён вядома дасьць. Хай яны будуць пэўны ў гэтым...

— Ну, вось пане Ўтонскі;—вясёла сказаў ён настаўніку,—ня гэткія ўжо дрэнныя тут людзі!

Настаўнік адарваўся ад вакна.

— Ды пра гэтых дзядзькоў дрэннага нельга нічога сказаць,—заўважыў ён.—Як раз вось Яндрыёнкавы дзеці сталі наведваць школу. Таксама Макарэвічавы...

Ён паказаў на хмурага селяніна.

— Але ёсьць некаторыя людзі...—не дагаварыў ён.

Панас Андрыёнак рашуча прысунуўся да асадніка і загаварыў:

— Я вам скажу, пане... Ёсьць у нас такі народ, ёсьць.

Апошнія словы ён праказаў амаль шэптам. У прыпадку прыхільнасьці ён паклаў на тлустую каленку пана Гжэцкага сваю руку. Пан Гжэцкі грэбліва скрывіўся і няпрыкметна адсунуўся.

— Я вам скажу, пане,—працягваў, хвалюючыся і зьбіваючыся, Панас Андрыёнак,—цёмны народ зараз пайшоў. Баламуцтва багата разьвялося. Зладзеяў у народзе поўна... Вось, скажам, падпалы. У пана нядаўна сена спалілі.

Пан Гжэцкі паляпаў Панаса па плячы

— Глупства, глупства, сябры мае! Я-ж ведаю, што гэта зрабілі цёмныя людзі. Каб усе былі гэткімі, як вы, дык ня было-б гэтага.

— Вось, вось!—абрадваўся Андрыёнак.—Я-ж і кажу—цёмныя асобы, баламуты, зладзеі...

І ўстаўшы з крэсла ён крыкнуў:

— Жыцьця на сяле няма ад іх! Ня можам з такімі людзьмі гаспадарыць! Крадзеж, сваркі... Галеча поруч з табою жыве і дыхаць табе не дае! Сёньня, скажам, вас спалілі, а заўтра, крый божа...

Панас Андрыёнак перахрысьціўся, не дагаварыўшы.

Гаспадары ўсхвалявана заківалі галовамі і пасунуліся бліжэй да асадніка. Адзін з іх нахіліўся да пана Гжэцкага і таемна зашаптаў:

— Надумалі мы сяло на хутары разьбіць... Каб, значыцца, гаспадарыць спакайней...

— Камасацыю хочам,—растлумачыў пахмуры Макарэвіч.

Вочы ў пана Гжэцкага бліснулі, Нават настаўнік адыйшоў ад вакна і сеў зацікаўлены каля сялян.

... Ня будзе ў цябе галота пад бокам сядзець,—лятуценна гаварыў Андрыёнак,—зямля ў адным месцы .. ні табе палосак, ні закашваньня! Адзін на сваім кавалку, як пан.

— Маеце рацыю, маеце рацыю...

Пан Гжэцкі задумаўся, потым устаў і, прайшоўшыся па пакоі, сказаў гаспадаром:

— Маеце рацыю, сябры мае. Урад вам дасьць крэдыт на перабудову... Будзеце гаспадарамі. Наладзіце спраўную гаспадарку, запануеце.

— Яшчэ як!—захоплена сказаў Андрыёнак.—Ды мне-б толькі, каб зямля разам была, каб не сядзеў пад бокам усякі гад—дык я-б...

Андрыёнак не знаходзіў слова, каб выказаць, як-бы ён гаспадарыў, выдзяліўшыся з сяла.

Толькі вось што, сябры мае...

Пан Гжэцкі спыніўся каля гаспадароў і ўзьняў угару палец.

Як раз у гэты момант у прыхожую вайшла пакаёўка Стэфка. Яна, муркаючы нейкую песенку, пачала абціраць мэблю, пазіраючы на гаспадароў, на Гжэцкага і на настаўніка.

— Пойдзем, сябры мае, да мяне ў габінэт,—абарваў пан Гжэцкі.



Малюнкі Л. Ран.

— Справы нішто,—адказаў настаўнік.



Яна падышла пад дзьверы габінэту і пільна прыслухалася.

Гаспадары ўсталі і гужам пацягліся за асаднікам. У прыхожай засталася адна Стэфка. Яна адчыніла вакно, каб праветрыць поўную тытунёвым дымам прыхожую, абцірала забруджаную падлогу. Але як толькі ляпнулі дзьверы ў габінэт пана Гжэцкага, Стэфка кінула работу. Яна падышла пад дзьверы габінэту і пільна прыслухалася.

Праз дзьверы чуліся прыглушаны Андрыёнкаў і задаволены асаднікаў галасы. Ішла шчырая размова гаспадароў з асаднікам. У гутарцы мільгалі прозьвішчы сялян і Стэфка, пачуўшы адно, уздрыгнула.

У габінэце зашумелі. Загрукалі крэслы. Стэфка адбегла ад дзьвярэй і, схапіўшы хустку, выбегла на вуліцу.

Ужо вечарэла. Стэфка ў цемры зьбягала па шэрай сьцежцы з гары і ўсё захуталася ў хустку. З сяла былі чутны галасы. Рыпала гармонь. Сьмяяліся дзяўчаты.

---

Шчыльна, грудзьмі да грудзей падышоў да сяла густы хмызьняк. За ім зараз-жа пачыналася балота. Вецер прыносіў адтуль увечары гнілы цеплаваты пах торфу і зыбкае дрыгвы. Зімою тут блізка да сяла падыходзілі ваўкі, вылі і цягалі з-пад варот дурных сабак. Улетку сюды канцавыя сяльчане пускалі, прыехаўшы з поля, коняй. Коні скублі прагавіта траву і ўздыхалі запалымі бакамі. Далей, яны ведалі, пачынаецца балота і таму далёка ад сяла не адыходзілі. Адсюль іх забіралі дзеці і вялі гуртам на начлег.

Увосень тут было надзвычайна ціха і пуста. Вецер шастаў апалым лісьцём і цярушыў салому крайніх хат. Яны, як авечкі, што адбіліся ад статку, выбеглі на край сяла і глядзелі спуджана навокал. Маўчаў зблытаны сухі хмызьняк. Здалёк з балота падыхала парным ветрам.

Сёньня ўвечары ў аднэй з хатак, якая зьбегла ў самы хмызьняк у лагчыну, позна бліснуў агеньчык і згас. Мабыць спалохаўся вакольнае цемры і цішыні. Чалавек, туляючыся, выйшаў з хмызьняку і накіраваўся да хаты. Відаць ён нечага сьцярогся, бо напусьціў на сябе самы нядбайны выгляд і нават нешта засьвістаў сьціха сабе пад нос. Насупраць хаткі каля апалае бярозы яго спыніў другі чалавек.

— Куды гэта ты, браце, ідзеш?—запытаў ён абыякавым голасам. Відаць, яму абрыдзела сядзець у хаце і ён быў рады загутарыць з першым стрэчным.

— Ды вось да Кандрата мяркую зайсьціся.

— Чаго?

— На заработкі ў горад хочам з ім ехаць, дык вось пагутарыць.

Хлопец, што стаяў каля бярозы, прыцягнуў яго да сябе і шэптам запытаў:

— Пароль?

— „Пан добры, толькі печаны“.

— Ідзі... Там хлопцы чакаюць,—штурхнуў яго да хаты хлопец і зноў прытуліўся да бярозы.

На пагорку на вуліцы адна за аднэй зьявіліся чатыры хлапечыя постаці. Яны па-малу выходзілі з пагорку, кідалі папяросы і таксама накіроўваліся да хаты.

Зноў запытаньне і той самы адказ:

— На заробкі ў горад маю ехаць... Трэба было пагутарыць. І шэптам:

— „Пан добры, толькі печаны“.

Потым з хаты выйшаў высокі хлопец і запытаў:

— З Целяшоўкі, з Азярыц яшчэ няма?

— Яшчэ...

— Ну, ідзі. Цяпер я пастаю.

Ён прытуліўся да бярозы і хлопец, што стаяў раней, пайшоў у хату.

У хаце было каля дзесятку хлопцаў. Слаба гарэла газьнічка. Вокны былі завешаны. Большасьць сядзела за сталом, на якім былі раскіданы карты і ляжала колькі грошай. Некаторыя хлопцы трымалі карты ў руках, але мала хто зьвяртаў на іх увагі. Ішла ціхая настарожаная гутарка. Яна абарвалася, калі ў хату ўвайшла, захутаўшы хусткаю твар, дзяўчына.

— Добрага вечару, хлопцы,—сказала яна па-польску і заўважыўшы карты, дадала:—А гэта ня дрэнна прыдумана. Калі заскочаць часам, дык будзе адгаворка: у карты гуляем.

— Сядай, Стэфка!—пасунуўся на лаве бялявы хлопец. Чакаем вось хлопцаў з вёсак. Нешта яны позьняцца.

Дзьверы рыпнулі і ў хату ўвайшлі яшчэ дзьве дзяўчынкі. Яны прывіталіся і селі каля Стэфкі. Адразу ў іх пачаліся з ёю ціхія патайныя гутаркі. Хлопцы зашумелі і Кандрат ужо некалькі разоў узвышаў голас:

— Хлопцы, цішэй! Гэта-ж не на вечарыну прышлі.

— А чым не вечарына?

Нейкі чарнявы, хітра ўсьміхаючыся, паставіў на стол пляшку і сказаў:

— Гэтак больш надзейна будзе—і карты і выпіўка.

Усе засьмяяліся, а адзін хлопец адкаркаваў пляшку і ўзрадавана сказаў:

— Самая што ні ёсьць сапраўдная гарэлка!

Адзін за адным у хату ўвайшлі хлопцы з вакольных вёсак. Іх усіх было дзевяць. Апошні ўвайшоў у хату з гарманістам Ігнатам, гаворачы на хаду:

— Больш нікога ня будзе. Нашы тут усе.

Целяшоўскія і Азярыцкія хлопцы зьмяшаліся з селавымі. Яны паціху віталіся і гаварылі:

— Многа-ж сёлета на заработкі зьбіраецца!

— Ня дзіва—дрэнны год выпаў!

— А я, ведаеце, забыўся прычыну, па якой зьбіраемся сёньня, дык караўульны не хацеў пусьціць. „Няма, кажа, Кандрата ў дварэ. Я, кажа, толькі што адтуль. І на заработкі ня думае ехаць Кандрат“. Добра, што Ігнат падасьпеў—пусьціў, ён мяне ведае.

Высокі Ігнат Курчык спыніў гутаркі і сказаў:

— Трэба зьмяніць варту. Янка, прыдзецца табе сёньня падзяжурыць, покуль мы скончым.

Бялявы нездаволена ўстаў.

— Я-б хацеў на сходзе пабыць,—прабурчэў ён.

— Нічога. Даведаешся аб усім! Вазьмі Якуба, Івана Зьмітрава, Тодара і ідзі. Разьмясьці хлопцаў добра, бо сход вялікі, дрэнна будзе, калі ўсіх захопяць.

Чацьвёрка выйшла з хаты. Дзьверы за імі зачыніліся і ў хаце павісла цішыня. Ігнат Курчык залез за стол і ціха зьвярнуўся да ўсіх:

— Дык, значыцца, пасяджэньне комсамольскай ячэйкі будзем лічыць адчыненым?

Хлопцы моўчкі кіўнулі галовамі.

— А ці ўсе сабраліся?

Запыталася Стэфка. Ігнат аглядзеў хлопцаў і сказаў:

— Амаль уся ячэйка ў зборы. Не хапае майго брата Міхася...

Палец на гарманіставай руцэ загнуўся.

— Арыштаваны...—сказаў нехта ціха.

— Андрэя Краўцэвіча...

— Арыштаваны...

— Карнейчыка з Азярыц...

— У турме...

— Саковіча з Целяшоўкі...

— Забралі...

— Антона Сямашкі...

— Узялі...

— Міхала Пашкевіча...

— Ды што ты там лічыш!—Нездаволена прабурчэў нехта.— Самі ведаем каго няма.

— Вось,—спакойна працягваў Ігнат,—а так усе. Дык пачнем?

У хаце зрабілася зусім ціха.

— Дык вось, таварышы, справа якая. Ячэйка даведалася, што Смольненскія заможнікі, панскія папіхачы Панас Андрыёнак, Хвядос Макарэвіч, Андрэй Буяк і яшчэ некалькі кулакоў разам з асаднікам Гжэцкім надумалі справакаваць наша сяло на камасацыю.

У хаце зьдзіўлена войкнулі галасы і замоўклі.

— Я мыслю,—працягваў Ігнат Курчык,—вам ня трэба тлумачыць, што гэта азначае. Акупанцкі бела-польскі ўрад ня

зусім цьвёрда адчувае сябе ў нашым краі. Ён шукае сабе прыяцеляў, шукае моцных людзей, на якіх ён мог-бы абаперціся. Гэту падпору ён знаходзіць у тых заможніках, якія жывуць у нашых сёлах. Урад голаду, тэрору і вайны мае кінуць ім падачку—адрэзаць ад сяла лепшыя кавалкі зямлі і пасадзіць на іх сваіх прыяцеляў, сваю апору тут у нас. На гэтых хутарох, таварышы, паны будуць гадаваць нашых ворагаў і здрайцаў.

— У хаце вісела мёртвая цішыня. Зноў працягваў гарманіст:

— А ці ведаеце, хлопцы, што нясе камасацыя? Разам са ўзбагачваньнем заможнікаў, яна нясе беднаце разбурэньне, згаленьне. Беднату павыкідаюць з сяла на пусташ, на балоты, прымусяць пераводзіць гаспадарку, накладуць новыя абавязкі. Да нас, хлопцы, прычэпяць новага асадніка, новага белапольскага заваёўніка, шпіка. Сяла, у якім паны справядліва бачаць гнёзды бунтарства, ня будзе—яго зьнішчыць камасацыя, гэта новая палітыка польскага ўраду. Ці разумееце вы, хлопцы, як гэта ўсё важна?

Ігнат Курчык замоўк і аглядзеў камсамольцаў. Твар яго быў узрушаны. На лоб звалілася пасма валос.

— Разумеем... Свалата якая... Ай-я-я!—загучэлі галасы. Камсамольцы паўставалі з месцаў і зьбіліся каля стала. Узьнятаю рукою гарманіст сьціснуў тул і паклікаў Стэфку.

— Вось вам—сказаў ён,—Стэфка зробіць інфармацыю. Яна бачыла, як нашы заможнікі прыходзілі да асадніка наконт камасацыі.

— Гавары, Стэфка, гавары!..

— Ціха, дурныя!

Стэфка, пачырванеўшы, стаяла каля стала перад хлопцамі.

— Гавары, Стэфка, па-польску! Зразумеем,—падтрымалі яе дзяўчаты.

— Дык вось, таварышы,—пачала яна,—я даўно ўжо бачыла, што гэтыя гаспадары дужа часта наведваюць майго пана. Скажу проста—пан Гжэцкі лічыў іх за сваіх людзей і выпытваў у іх усё, што робіцца на сяле. Яны давалі яму стала інформацыю пра настрої, пра гутаркі на сяле. Праз іх пан Гжэцкі дакладна ведаў, хто з сяльчан чым жыве і дыша. І я сама бачыла, як пан запісваў прозьвішчы, што паказвалі ў гутарцы гаспадары. Мой абавязак быў пра гэта паведамляць у ячэйку. Я гэта і рабіла.

— Яна перадыхнула і паправіла валасы, што выбіліся з-пад хусткі.

— Але ўчора,—працягвала яна,—на фальварку сабраліся ўсе шпіцлі. Прышоў спачатку настаўнік. Ён гаварыў, што сяльчане супроць польскай школы і называў Лук'янцова прозьвішча. Пан Гжэцкі яго запісаў...

— Та-ак!

— Вось табе і настаўнік!

— Потым—сяльчане. Тыя, што казаў Ігнат. Яны зачыніліся з панам у габінэце, але я ўсё чула. Пан тлумачыў, як трэба дамагаціа камасацыі і абяцаў сваю дапамогу. Казаў, што тых уласьнікаў зямлі, якія за камасацыю, ужо досыць каб зрабіць яе. Але раіў яшчэ падгаварыць колькі гаспадароў, каб выйшла так, нібыта ўсё сяло хоча камасавацца. Потым ён прасіў гаспадароў прасачыць, ці няма на сяле камуністаў... Пан выпытваў, якія людзі на сяле найбольш падазроныя і...

— І што?—запытаўся гарманіст.

— І Андрыёнак пачаў пералічваць пану. Першым ён назваў Лук'янца. Дужа лаяў яго, казаў, першы бунтар на сяле. Потым назваў Міхала Лашкевічавага брата. Потым Кандрата...

Кандрат ускочыў з месца, але зараз-жа сеў пад спакойным гарманістывым позіркам.

— ... Казаў—падазроны чалавек. Нічога пэўнага ня мог сказаць. але абяцаў прасачыць пільней. А потым Андрыёнак назваў Ігната,..

Стэфка на хвіліну спынілася.

— Макарэвіч падтрымаў. Кажа—цёмны хлопец і хітры, трэба сачыць за ім... Вось і ўсё. Больш я ня слухала, бо было небясьпечна. Хутка яны будуць пісаць з настаўнікам заяву на камасацыю. Пан ім абяцаў, што каморнік адрэжа, якую яны толькі захочуць зямлю...

Стэфка ізноў паправіла валасы і села. За сталом устаў гарманіст і казаў:

— Дык вось, хлопцы... Чулі? Перад ячэйкай, такім чынам, два факты. Факт нумар першы, гэта тое, што нашы заможнікі хочуць справакаваць сяло на камасацыю.

Ён прыстукнуў кулаком.

— Факт нумар другі—тое, што нашы панскія папіхайлы, польскі настаўнік—акупант робіцца конфідэнтамі, і калі ня выдалі ячэйкі, дык толькі таму, што ня ведаюць пра яе. А калі даведаюцца, калі прасочаць?

Ігнат Курчык замоўк. Было вядома, што тады будзе. Кожны з комсамольцаў ведаў гэта і таму ўсе маўчалі. Толькі ад сьцятых кулакоў, ад крамяных камякоў, што перакатваліся над сківіцамі, у хаце навісла бура, якая вось-вось, глядзі, правалецца, лыне крыкамі, лаянкамі, вырвецца з хаты.

— Спаліць сволачаў! Зтэрорызаваць шпіцляў!—прахрыпеў нехта.

---

Камсамольскі сход скончыўся за поўнач.

Сумятліва ціснучы на разьвітаньне рукі, разыходзіліся камсамольцы з навакольных вёсак. Ня было лішніх слоў, усе сьпяшаліся.

Разьвітаючыся з Кандратам, Ігнат сказаў:

— Трэба будзе прыглядацца да Макарэвіча. Бацька ў яго шпіцаль і камасатар і за сынам я таксама заўважаю нешта нядобрае. Зараз нічога такога рабіць нязручна, але трэба быць пільным. Цяпер можна ўсяго чакаць.

— Ды Лук'янца трэба папярэдзіць. Няхай ведае, што сусед пра яго асадніку гаворыць.

Моцна паціснуўшы адзін аднаму рукі, камсамольцы разышліся.



Уноў абраны сэкратар ЦК ЛКСМБ т. Гэрцовіч.



Другі ўсебеларускі агразоотэхнічны зьезд. Наркомзем т. Рачыцкі робіць даклад.

Фото Мазалева.

# Дзіцячы сад

Ня так даўно тут была царква. Верхнюю частку яе разам з купаламі зьнялі і ў прасторным будынку цяпер зьмяшчаецца дзіцячы сад фабрыкі „Дзьвіна“.

Пачынае віднець.

Да ганку падыходзяць першыя работніцы з дзецьмі. Яны шумна адчыняюць дзьверы, у рухах адчуваецца таропкасьць — сьпяшаюцца ісьці на работу. Вітаюцца з выхавальніцай, наказваюць дзецям добра трымацца сябе, не капрызьнічаць, пакуль вернецца маці і ідуць працаваць.

Дзеці адчуваюць сябе як дома. Выхавальніца пачынае распранаць іх. Дзеці ўжо ня першы раз тут і добра ведаюць распарадак дзетсаду. Некаторыя распрануўшыся ідуць пад рукамойнікі самі, без напамінаньня.

Для назіраньня за выкананьнем правіл гігіены ад дзяцей установлена дзяжурства. Сёньня дзяжурная Маша. З павязкай на руцэ яна абыходзіць дзяцей, правярае, ці ўсе выканалі свае абавязкі. Зіна ўпарта не хоча паказаць рукі. Аказваецца, яна сёньня непамылася. Гэта—парушэньне дысцыпліны. Дзяжурная Маша на сандошцы піша: „Зіна, мый рукі“. Гэта мэтод узьдзейнічаньня на недысцыплінаваных.

Дзеці займаюцца вольнымі рухамі, потым ідуць сьнедаць. Пасьля сьнеданьня дзеці займаюцца. Адны ідуць у жывы куток—там яны набываюць элементарныя прыродазнаўчыя веды. Другія майструюць сабе цацкі—тут прышчэпліваецца дзецям любоў да працы—рыхтуюцца будучыя будаўнікі соцыялізму.

Раніцой дзеці выяўляюць у занятках найбольшую актыўнасьць. Майструюць, кормяць сваю жывёлу, сочаць, як плаваюць рыбкі ў акварыумах, кідаюць ім корм. Але скора актыўнасьць пачынае слабець. Гэта азначае, што час блізіцца к абеду.

Абед разьліваюць у талеркі і разносяць дзяжурныя. Іх-жа абавязак прасачыць, каб усе дзеці пасьля абеду клаліся у пасьцель, захоўвалі мёртвую гадзіну.

Пасьля адпачынку дзеці малююць, рыхтуюць сваю дзіцячую газэту, выхавальніца праводзіць з імі заняткі оркестру.

Так праходзіць дзень.

Маці, працуючы на заводзе, ня трэба непакоіцца аб дзіцяці, якое застаецца дома і за якім у большасьці выпадкаў нямакаму наглядаць. Яна ведае, што дзіця яе ў дзетсадзе, што яно ў час будзе накормлена, што за ім ёсьць належны догляд. Гэта захоўвае энэргію работніцы для продукцыйнай вытворчай працы.





ОРГАНІЗАЦЫЯЙ СЕТКІ ДЗ





ОРГАНІЗАЦЫЯЙ ГРАМАДЗКАГ





РАБОТНІЦУ АД ХАТНІХ КЛАП







ДЗІЦЯЧЫХ ЯСЬЛЯЎ, ПЛЯЦОВАК, САДОЎ,




ФОТО
НАРЫС
Тэкст
Ч. Г.

КАГА ХАРЧАВАНЬНЯ, ПРАЛЬНЯЎ АСЛАБАНІМ



АП... Т ДЛЯ ПРОДУКЦЫЙНАЙ ВЫТВОРЧАЙ РАБОТЫ



ФОТО
ГЕ
ГУРВІЧА

# Ц Э М Э Н Т

УС. ШЫДЛОЎСКАГА.



Воданапорная вышка.

Новыя корпусы, заводы, фабрыкі, новыя масты, электрастанцыі, якія з кожным днём вырастаюць на неабсяжных прасторах Савецкага Саюзу, патрабуюць для сябе многа будаўнічага матар'ялу. Адным з такіх будаўнічых матар'ялаў зьяўляецца цэмэнт.

Цэмэнтныя заводы, якія існуюць цяпер, ня могуць задаволіць цэмэнтам у дастатковай ступені таго гігантскага будаўніцтва, якое разгортваецца ў краіне. Патрэбны новыя цэмэнтныя заводы з мільёнамі новых бочак цэмэнту.

І партыя пастанавіла будаваць новыя цэмэнтныя заводы Адзін з такіх заводаў будуецца ў БССР у Крычаўскім раёне—Крычаўскі цэмэнтны волат.

1-га мая 1930 году ў гліністую глебу, недалёка ад мястэчка Крычава ўпяршыню ўрэзалася жалезная грабарская лапата, расчышчаючы месца для падмурку новага завода.

1-га мая 1930 году на станцыі Крычаў засьвісталі гудкі чорных шчукінскіх паравозаў, якія прывезьлі эшалёны жалеза, цэглы, сталі, цэмэнту, дошчак для новага завода.

1-га мая 1930 году закіпела работа на пустым аплаканым ветрамі і сухім быльнягом полі. Заварушыліся людзі, застукалі тапары, зазьвінела жалеза.

Аб будаўніцтве новага завода радыё-хвалі разьнесьлі весткі па ўсім СССР. Весткі дайшлі да чарнігаўцаў, да кіяўлян. І на будаўніцтва новага заводу пачалі зьяжджацца людзі з усіх канцоў Савецкага Саюзу. Ехалі з поўдню, ехалі з поўначы цераз Воршу, цераз Гомель і ўсе зьяжджаліся на невялікай але бурлівай жыцьцём ст. Крычаў.

Крычаўскія, касьцюкавіцкія, ходасоўскія калгасьнікі бедныя з серадняками таксама прышлі на завод, прышлі будаваць новы волат з сякерамі, з лапатамі, з ламамі. 1.100 рабочых распачалі працу.

І пачалі вырастаць рыштаваньні, а разам з рыштаваньнямі рос завод. Паўтара гады кіпела работа, паўтара гады змацоўвалі жалеза з бэтонам і вырос сярод поля, недалёка ад чыгункі велізарны завод—волат з электрастанцыяй, воданапорнай вежай і рабочым пасёлкам.

Бэтон і жалеза—вось асноўны матар'ял, з якога будаваўся завод. Спачатку сьцену выводзілі дошкамі ў два рады, тады ўстаўлялі паміж дошак тоўсты жалезны дрот і потым залівалі бэтонам. Так выраслі сьцены, так выраслі трубы і печы Конструкцыя заводу уся жалеза-бэтонная, магутная, велічная.

Калі прыяжджаеш цяпер на ст. Крычаў, дык у першую чаргу кінецца ў вочы велізарны 75-ці мэтровы цагляны комін, які ўзвышаецца над усім заводам. Комін такі патрабаваўся для таго, каб была вялікая цяга з абжыгальных печаў, у якіх будзе апальвацца гліна і крэйда і ператварацца ў цэмэнт.

Завод будзе працаваць на мясцовым сырцы, якога так шмат хавае ў сабе шчодрая крычаўская зямля. У год завод будзе даваць 750 тысяч бочак цэмэнту. Цэмэнт, які будзе выпрацоўваць Крычаўскі завод паводле заяў спэцыялістаў, будзе цэршай якасьці.

Будаўніцтва заводу скончана. Скончана будаўніцтва і электрастанцыі, магутнасьцю ў 5.200 кілёват энэргіі. Электрастанцыя будзе абслугоўваць ня толькі цэмэнтны завод, яна будзе абслугоўваць мястэчка Крычаў, станцыю Крычаў і фасфарытны завод, што знаходзіцца недалёка ад цэмэнтнага. Да заводу пракладзена чыгунка, па якой будуць адвозіць гатовую продукцыю.

Цяпер распачаўся мантаж заводу. Новыя машыны, жалезныя кругі, млыны пачалі займаць сваё месца ў новым будынку.

Абсталяваньне ставіцца на зямлі, прышрубоўваецца да сьцен, да столі, каб у патрэбны час закруціцца, забегаць, застукаць і выпаўняць пэўную работу. Мантаж абсталяваньня будзе скончаны 1-га мая 1932 году.

Каля заводу, прытуліўшыся да зямлі, стаяць дашчастыя рабочыя баракі. У гэтых бараках жывуць будаўнікі заводу, жывуць ударнікі, творцы новага нябачанага.

Усё-ж нельга не спыніцца на тых прарывах, якія былі па будаўніцтве. 6 умоў т. Сталіна, якія забясьпечваюць перамогу, ня былі рэалізаваны ў дастатковай ступені на заводзе. Прагрэсыўна-зьдзельная аплата працы таксама ня была ўведзена.

Да гэтых пытаньняў надзвычайна нядбайна адносіліся гаспадарчыя і профсаюзныя організацыі заводу.

Прагулы—гэты зьлейшы вораг будаўніцтва, часамі займалі досыць значнае месца на будаўніцтве. Былі месяцы, калі прагулы займалі каля 18 проц. ад агульнай колькасьці рабочых. Гэта ў выніку таго, што сярод рабочых не праводзілася ніякай культмасавай і выхаваўчай работы. Слаба былі разгорнуты сацыялістычныя мэтоды працы—соцспаборніцтва і ўдарніцтва. Комсамол—акумулятар працоўнай энэргіі, застрэльшчык соцспаборніцтва і ўдарніцтва, слаба змагаўся за сацыялістычныя мэтоды працы на будаўніцтве.

Дрэнныя бытавыя ўмовы рабочых значна адбіта іся на будаўніцтве. У выніку і прагулы, і спазьненьні, і нездаровыя настроі і „настройчыкі".

Профорганізацыя слаба адчувалася на будаўніцтве. Не вяла барацьбы за добры, здаровы і чысты барак, не змагалася з прагуламі, спазьненьнямі, п'янкай.

Але гэта было. Было тады, калі стрыкаты і разнастайны склад рабочых ня быў згуртаваным, маналітным, не пераварыўся ў працоўным катле, не загартаваў сябе ў барацьбе за прамфінплян, за сваячасовы пуск заводу. Было тады, калі партыйны калектыў не ўзначаліў барацьбы за рэалізацыю 6 умоў т. Сталіна.

Цяпер завод шпаркімі тэмпамі рыхтуецца да пуску. Партыйны і комсамольскі колектывы рашуча выступілі ў бойку з тымі прарывамі, якія былі на будаўніцтве. Укараненьне 6 умоў т. Сталіна дало надзвычайныя вынікі: павялічылася продукцыйнасьць працы, ліквідавана цякучасьць рабочай сілы, палепшаны бытавыя ўмовы рабочых, шырока разгарнуўся ўдарніцкі рух.

Жалезная ўпартасьць да працы рабочых, пад кіраўніцтвам партколектыву забясьпечыць сваячасовы пуск заводу.

— Завод будзе пушчаны ў тэрмін,—заяўляе начальнік будаўніцтва тав. Бэрхман.

Адным з тормазоў будаўніцтва зьяўляецца несваячасовае выкананьне заказаў для абсталяваньня заводу і электрастанцыі. Заводы, якія ўзяліся рабіць заказы Крычаўскаму цэмзаводу, павінны сваячасова выканаць іх з такім разьлікам, каб не сарваць пуску заводу.

Цяпер рабочыя жывуць у дашчастых бараках. А праз поўгода яны будуць жыць у 3-х павярховых чыстых і сьветлых дамох, якія пабудаваны іхнімі рукамі. Рабочы пасёлак, які вырас разам з заводам, хутка закіпіць рабочым жыцьцём, жыцьцём ударнікаў і іх сем'яў.

У рабочым пасёлку будзе больніца, школа, клюб. У школе будуць вучыцца дзеці, каб замяніць сваіх бацькоў, якія твораць гераічныя справы. У клюбе, пасьля 7-мі гадзіннай працы, якая стала справай гонару, мужнасьці, адвагі і геройства, рабочы знойдзе культурны адпачынак, знойдзе кніжку, газэту.

1-га мая 1932 году будзе пушчаны завод. Загудуць урачыста і радасна гудкі цэмзаводу і электрастанцыі. Закруцяцца абжыгальныя печы, застукаюць цэмэнтныя млыны і пацячэ ў бочкі сівы цэмэнт, які так патрэбен для будаўніцтва новых фабрык і заводаў, які так патрэбен для пасьпяховага заканчэньня 5-ці годкі.

ФОТО СЕМАНЯКІ



Корпус цэмэнтнага заводу ў Крычаве.



Электрастанцыя пры заводзе.



Карпусы рабочага пасёлку.

**ТРЭБА САМІМ СТАЦЬ СПЭЦЫЯЛІСТАМІ, ГАСПАДАРАМІ СПРАВЫ, ТРЭБА ПАВЯРНУЦЦА ТВАРАМ ДА ТЭХНІКІ, ТВАРАМ ДА ТЭХНІЧНЫХ ВЕДАЎ.**

**СТАЛІН.**

**МЫ ПАВІННЫ ПРАСОЎВАЦЦА НАПЕРАД ТАК, КАБ РАБОЧАЯ КЛЯСА ЎСЯГО СЬВЕТУ, ГЛЕДЗЯЧЫ НА НАС, МАГЛА СКАЗАЦЬ: ВОСЬ ЁН, МОЙ ПЕРАДАВЫ АТРАД, ВОСЬ ЯНА, МАЯ ЎДАРНАЯ БРЫГАДА, ВОСЬ ЯНА, МАЯ РАБОЧАЯ ЎЛАДА, ВОСЬ ЯНА, МАЯ БАЦЬКАЎШЧЫНА.**

**СТАЛІН.**

# VII УСЕБЕЛАРУСКІ ЗЬЕЗД




1



3



2



4

Здымкі фото эрыгады: В. РОЗЭНБЛІТ, М. РЫВІН, І. САЛАВЕЙЧЫК.

1. Клюб харчавікоў, дзе адбываўся зьезд.
2. Прэзыдыум зьезду.
3. Старшыня ЦСПСБ т. Рыжоў адчыняе зьезд.
4. Прадстаўнік УсеЦСПС т. Баярскі.
5. У залі зьезду.



5

# П Р А Ф С А Ю З А Ў

6. Перадача мадэлі самалёту ад падшэфнай ЦСПСБ №-скай авіяэскадрыльлі.
7. Перадача прывітаньня ад брыгады комсамольскага паравоза.
8. Замежны рабочы аглядае выстаўку.
9. Аддзел вынаходніцтва на выстаўцы зьезду.
10. Прывітаньне зьезду ад падшэфнай №-скай авіяэскадрыльлі.















# ПАРЫСКАЯ КОМУНА

**Справа комуны—гэта справа социяльнай рэволюцыі, справа поўнага палітычнага і экономічнага вызваленьня працоўных, гэта справа сусьветнага пролетарыяту. І ў гэтым сэнсе яна бесьсьмяротна. (ЛЕНІН).**





Узятыя ў палон комунары сьпяць у лягеры ў Саторы

Расстрэл генэралаў Леконта і Тома за тое, што аддалі загад страляць у парыскі народ.





Атрады першай Чырвонай арміі на сваёй барыкадзе на Вандомскім пляцу.

**Прынцыпы комуны вечны і ня могуць быць зьнішчаны: яны ўсё зноў і зноў будуць станавіцца ў парадак дня да таго часу, пакуль рабочая кляса не даб'ецца вызваленьня. (К. МАРКС)**

# ЛЮТАЎСКІЯ ДНІ 1917 г.



Петроград. Ахвяры падзей на двары Петрапаўлаўскай больніцы.



Пахаваньне двух палітычных зьняволеных.



Мітынг у Маскве.

Ал. ПРУДНІКАЎ

# КОЛГАСНАЯ ВЯСНА

Вечарамі—
        песень пераборы
Абыходзяць
        рупна поля роўнядзь.
Караблі марозавых узораў
Адплылі кірункамі на поўнач.

І вятроў—
        асьнежаных і дзікіх
На лугох ня скачуць табуны...
Цёплы дожджык!
        Па праталках дзынкні,
Любы госьць колгаснае вясны.

Зелень ніў—
        азімая пшаніца,
Ярына і плошчы канюшыны—
Будуць ціць вусамі караніцы
Глебы ўгноенае
        сок спажыўны.

Чыстым зернем высеем даліны;—
Ад машын—
        за лесам гасьне рэха...,
Трактарыст!
        Змагацца ты павінен,
За ральлю бяз промахаў—узрэхаў!

Жылы меж—
        павыкрэсьлены намі,
І сьлядоў на полі
        ня відно іх,—
Зааралі мы іх трактарамі
І пясок аздобілі пагноем...

За калосьсе
        і за медзь саломы
І за якасьць добрую ўмалоту,
дзякуй скажуць хлопцы аграному
Як спэцу
        і сябру па рабоце.

А цяпер—пакуль вясна ў разгары,
Пакуль фронт вясновы на павестцы,—
Ты змагайся,
        добры наш таварыш,
Каб сяўбу па-ўдарнаму правесьці!

На двары цяплынь...
        а ля гасьцінцаў—
Пышны рост
        вясеньняй руні ніў...
Цёплы дожджык!
        Па палёх прайдзіся,—
Першы госьць колгаснае вясны!

Менск, 18-III—32 г.

# ЯПОНСКІ ІМПЭРЫЯЛІЗМ У КІТАІ

Дзесяцідзёнка з 10 па 20 сакавіка ў Шанхайскім раёне прайшла пад знакам бясконцых перагавораў паміж японскім і кітайскім камандаваньнем з удзелам прадстаўнікоў ПАЗШ, Англіі, Францыі і Італіі. Задачай гэтых перагавораў было: узаконіць становішча, якое стварылася ў выніку адыходу 19-й арміі ў раён Гуншана. Проекты японскага камандаваньня, прапанаваныя на гэтых нарадах, азначаюць поўнае аддзяленьне Шанхайскага раёну ад астатняга Кітаю.

Прыезд камісіі Лігі Нацый у Шанхай прымусіў японскае камандаваньне стварыць бачнасьць уступчывасьці ў Шанхайскім пытаньні. Пачаліся ўзмоцненыя размовы аб эвакуацыі, паўтары японскіх дывізій з шанхайскага раёну.

Сутнасьць Шанхайскай гаварыльні ўскрывае апошняя заява Мацуока (адмысловы прадстаўнік японскага прэм'ера Інукая ў Шанхаі) амэрыканскім журналістам, апублікаваная ў буржуазным друку аб тым, што незгаворчывасьць кітайскіх улад перашкаджае тэрміновай адпраўцы японскіх войск з Шанхаю ў Манчжурыю.

Інтэрв'ю, данае Чан-Кай-Шы на манчжурскім пытаньні, таксама паказвае, што Гоміндан цалкам стаў на позіцыі згоды з Японіяй па гэтым пытаньні і знаходзіць патрэбным толькі слаба ківаць на Лігу нацый, якая моў павінна вырашыць Манчжурскае пытаньне.

Справы японскага імпэрыялізму ў Манчжурыі за гэту дзесяцідзёнку былі некалькі больш „пасьпяховымі“: „Організаваўся“, урэшце, новы „манчжурскі ўрад“ па чале з „вярхоўным кіраўніком“ Пу-І.

Дзейнасьць манчжурскага ўраду ў чыгункавым пытаньні, пытаньні аб легалізаваньні белагвардзейскіх організацый, „паўстаньні“ ў прыгранічных з СССР раёнах, прыезд у Харбін камандуючага квантунскай арміі генэрала Хондзіо — усё гэта заслугоўвае вялікай увагі.



Японцы паляць кітайскую вёску каля Шанхая.



Токіо. Майстэрня па вырабу сьцягаў для „незалежнай“ манчжурскай дзяржавы.



Шанхай. Паўночны вакзал пасьля японскай паветранай бомбардыроўкі.



Цай-Цін-Кай—камандуючы 19 кантонскай арміяй



Руіны Чапэя.

Выданьне Дзяржаўнага Выдавецтва Беларусі. Рэдактар МІХАСЬ ЧАРОТ.

# ШАХМАТЫ № 5(15)

**Пад рэдакцыяй Я. Е. КАМЯНЕЦКАГА**



**Задача № 39**

„Іра Рудава“
П. П., 1931 г.

Мат у 3 хады



**Задача № 40**

„Эдзі Бэрд“
1920 г.

Мат у 3 хады

**Міжнародны конкурс „Чырвонай Беларусі“**



**Задача № 41**

Дэвіз „Контр-Батарэя“

Мат у 2 хады



**Задача № 42**

Дэвіз „Thinkomt“

Мат у 2 хады



**Задача № 43**

Дэвіз „Емсімб“

Мат у 2 хады

## Забыты фронт

Шахматная композыцыя, да апошняга часу ня меўшая вопыту масавай работы і ня маючая добрых, даступных усім падвучнікаў, сярод жанчын карыстаецца вельмі малай популярнасьцю.

Калі жанчын-шахматыстак мы можам лічыць сотнямі (гэта нас ні ў якім разе не задавальняе), дык для вучоту жанчын-проблемістак, у нас, у СССР нам хопіць пальцаў аднэй рукі. Мы мелі толькі адзін выпадак выступленьня жанчыны-праблемісткі ў шахматным часопісу ў 1927 г., але першы выпадак, так і застаўся першым.

І толькі ў апошні час у сувязі з узмацненьнем масавай работы па шахм композыцыі, у шахматных аддзелах зьявіліся жаночыя імёны. Ужо каля трох год у „Пионерской Правде“ друкуецца Іра Рудава (Тульчын УССР). Яна надрукавала шэраг ня дрэнных задач. Прыводзім адну з іх (№ 39).

Яшчэ больш жаночых імён мы сустракаем за апошні час у сьпісах, разьвязваючых задачы („Ленинские Искры“ і інш.). Конкурс разьвязваньняў мінулага году газ. „Пионерская Правда“ у ліку 2.017 (!) удзельнікаў меў і 56 жанчын.

Прыведзеныя факты пераконваюць нас, што і ў жаночым асяродзьдзі да шахматнай композыцыі маецца значная зацікаўленасьць.

Задача проблемістаў узмацненьнем работы на гэтым забытым вучастку прыцягнуць масы працоўных жанчын да ўдзелу ў фізкультурных і шахматна-шашачных гуртках і праз іх—да ўдзелу ў соцыялістычным будаўніцтве.

## Жанчына-проблемістка.

Найбольш значнай велічынёй сярод жанчын-проблемістак лічаць Эдзі Бэрд (1859—1924 г.), якая за час свае композытарскай дзейнасьці дасягнула сапраўды вышэйшых ступеняў майстэрства. Па колькасьці сваіх твораў Э Бэрд займае пачэснае месца: ею складзена каля 2.000 задач, 700 якіх выдадзены асобным зборнікам. Бэрд атрымала вялікі лік розных адліччаў на конкурсах і яе прыклад паказвае, што галіна шахматнай композыцыі зусім не зьяўляецца недаступнай для жанчын.

Вышэй прыводзім адну з яе прэміяваных задач, прыгожую мініацюру *).

### Разьвязваньне задач № 39 і 40.

№ 39 1. Cc1—d2, Zugzwang.

| | 1 | 2 | 3 |
|---|---|---|---|
| | 1 . . . . / кр g4 : h4 | 2 Cd2—e1+ / Kp h4—g4 | 3 Лd3—d4× |
| | 1 . . . . / g5 : h4 | 2 Cd2—g5! / h4—h3 | 3 g2 : h3× |
| № 40 | 1 Фg2—g7 / Kp c5—c6 | 2 c4—c5 / Kp c6 : c5 | 3 Фg7—C7× |
| | 1 . . . . / Kp c5 : c4 | 2 Фg7—d4+ / Kp C4—b3 | 3 Фd4—b4× |
| | 1 . . . . / Kp c5—d6 | 2 Kc3—b5+ / Kp d6—e6 | 3 Kc2—d4× |

## Рыхтуйцеся да ўсебеларускіх жаночых спаборніцтваў

Надыходзіць V Усебеларускі ш/ш зьезд.

Па ўсіх гарадох, раёнах Савецкай Беларусі ідзе гарачая падрыхтоўка,—заканчваюцца спартакіяды ў ВНУ і школах, на фабрыках і заводах, падагульняемыя ш/ш. конфэрэнцыямі. Пачынаюцца агульнагарадзкія ш/ш. спаборніцтвы.

Рыхтуюцца і да ўсебеларускага жаночага турніра.

У Менску на шчотачнай фабрыцы організавана жаночая гаспадарчаразьліковая шахматная ўдарная брыгада імя VII зьезду профсаюзаў БССР. Брыгада рапартавала зьезду шэрагам буйнейшых перамог: 1) прамфінплян брыгада, пры агульназаводзкім недавыкананьні перавыконвае. 2) Усе члены брыгады—фізкультурніцы, большасьць з якіх здала ўжо па некалькі норм на значок ГПА.

Організатарам гэтае брыгады зьяўляецца адзін з лепшых ударнікаў шорнай фабрыкі „Усход“, актыўны грамадзкі ш/ш. працаўнік т. Кейлес.

Зараз брыгада праводзіць шахматныя спаборніцтвы брыгады. Дзьве пераможцы атрымоўваюць права ігры ва ўсебеларускім жаночым турніры.

Гэта права яны заваявалі ня толькі на шахматнай дошцы,—яны заваявалі яго ўдарнай працай за варштатам.

Шахматы і шашкі ў жаночыя масы!

*) Мініацюрай завецца задача, дзе лік фігур не перавышае 7.

Друкарня імя Сталіна. Зак. № 844. 2000 экз. Галоўлітбел № 481.

# МЫ выкрэсьлілі

# МІНУЛАЕ

## АЛЕ ЯНО ЯШЧЭ ЖЫВЕ Ў



## КАПІТАЛІСТЫЧНЫХ КРАІНАХ